# Сродкі масавай інфармацыі
## ў Беларусі ў 2002 годзе

Склала Ілона Урбановіч-Саўка

## Змест

# ПАРУШЭННІ ЗАКАНАДАЎСТВА АБ СМІ

## а. Спыненне або прыпыненне дзейнасці СМІ ўладамі

Паводле артыкула 16 Закона «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі»:

*«деятельность средства массовой информации может быть прекращена только по решению учредителя или судом в порядке гражданского судопроизводства»*[1].

[1] Закон аб друку цытуецца паводле: О печати и других средствах массовой информации. Закон Республики Беларусь от 13 января 1995 г. №3515-XII [изменения и дополнения: Закон от 7 июня 1996 г. №438-XIII; Закон от 8 января 1998 г. №134-3; Закон от 3





Гэты ж артыкул Закона абмяжоўвае паўнамоцтвы рэгістравальнага органу (Міністэрства інфармацыі), дазваляючы яму толькі прыпыняць дзейнасць СМІ на тэрмін да трох месяцаў. Заснавальнік выдання мае права спыніць або прыпыніць яго дзейнасць толькі ў выпадках, прадугледжаных статутам выдання або дамоваю паміж заснавальнікам і рэдакцыяй.

У 2002 годзе Міністэрства інфармацыі фактычна само зачыніла два выданні, ігнаруючы патрабаванне закона закрываць медыі толькі па выніках судовага разгляду.

21 жніўня 2002 года, на падставе заявы Сяргея Атрошчанкі — аднаго з чатырох заснавальнікаў прыватнай газеты «Свободные новости», — міністр інфармацыі Міхаіл Падгайны выдаў загад скасаваць пасведчанне аб рэгістрацыі выдання. С. Атрошчанка, абмінуўшы працэдуру скасавання дамовы паміж выдаўцом і рэдакцыяй, заявіў аб прыпыненні выдання з прычыны нерэнтабельнасці, пры гэтым зазначыўшы, што апошнім часам газета:

*«жыве на гранты, атрыманыя з амерыканскага пасольства»*[2].

Тры іншыя заснавальнікі выдання абверглі гэтую заяву.

Закрыццё газеты «Свободные новости» адбылося на фоне выхаду першага нумара газеты «Обозреватель», шэф-рэдактарам якой аказаўся С. Атрошчанка.

июля 1999 г. №285-3; Закон от 13 декабря 1999 г. №337-3] // Эталонный банк данных правовой информации Республики Беларусь / Национальный центр правовой информации Республики Беларусь (http://www.ncpi.gov.by).

[2] Паведамленне інфармацыйнага агенцтва «Интерфакс».

Беларуская асацыяцыя журналістаў заявіла, што ўдзел Міністэрства ў спрэчцы паміж заснавальнікамі на пазіцыях аднаго з бакоў супярэчыць заканадаўству і можа разглядацца як умяшанне ў прыватныя справы (артыкул 2 Грамадзянскага кодэкса) ды спрыянне несумленнай канкурэнцыі. На гэтай падставе БАЖ запатрабавала адстаўкі міністра інфармацыі.

16 кастрычніка Вышэйшы гаспадарчы суд адхіліў зыск трох заснавальнікаў газеты «Свободные новости» (апроч С. Атрошчанкі) аб прызнанні несапраўдным загада міністра інфармацыі.

26 лістапада Міністэрства інфармацыі анулявала рэгістрацыйнае пасведчанне недзяржаўнага тыднёвіка «Местное время», кіруючыся рашэннем Мінскага аблвыканкаму аб скасаванні рэгістрацыі заснавальніка газеты — ТАА «Местное время-пресс». Перад гэтым, 6 лістапада, Мінскі райвыканкам ануляваў рашэнне аб дазволе на размяшчэнне рэдакцыі газеты. На момант падпісання міністрам інфармацыі загада, які прывёў да закрыцця газеты, працэдура ліквідацыіі ТАА яшчэ не пачалася. Беларуская асацыяцыя журналістаў выступіла з заявай з нагоды інцыдэнту, у якой назвала дзеянні ўладаў *«юрыдычна неабгрунтаванымі»* і запатрабавала адмяніць рашэнні Мінскага аблвыканкаму і Міністэрства інфармацыі.

16 красавіка 2003 года Мінскі гарадскі гаспадарчы суд прызнаў рашэнне Мінскага аблвыканкаму аб скасаванні рэгістрацыі ТАА «Местное время-пресс» несапраўдным. Аднак да 1 ліпеня 2003 года Міністэрства інфармацыі не перагледзела свайго рашэння.

Яшчэ адна агульнанацыянальная незалежная газета — «Наша свабода» — перастала выходзіць пасля таго, як 2 жніўня 2002 года суд Маскоўскага раёна г. Мінска задаволіў зыск аб абароне гонару і годнасці старшыні Камітэта дзяржкантролю Анатоля Тозіка і пастанавіў спагнаць з газеты 100 млн. рублёў (каля 52 тыс. долараў ЗША)[3].





### b. Папярэджанні

У 2002 годзе Міністэрства інфармацыі і Пракуратура Рэспублікі Беларусь радзей выносілі сродкам масавай інфармацыі папярэджанні аб парушэнні Закона аб друку. Калі ў 2000 годзе Дзяржаўны камітэт па друку вынес 90 папярэджанняў[4], то цягам дзесяці месяцаў 2001 года — ужо 47[5], а ў 2002 годзе (на гэты момант Дзяржкамітэт па друку быў ператвораны ў Міністэрства інфармацыі) — 27[6]. Пракуратура Рэспублікі Беларусь вынесла ў мінулым годзе каля 10 папярэджанняў[7].

Пры зніжэнні колькасці вынесеных папярэджанняў працягвалася практыка выкарыстання папярэджанняў з мэтаю цэнзуры. 21 сакавіка 2002 года газета «Народная воля» атрымала папярэджанне Міністэрства інфармацыі за парушэнне

[3] Падрабязней гл.: Раздзел 4. Судовыя працэсы аб абароне гонару і годнасці.

[4] И. Коваль. Белорусские СМИ через призму предупреждений Госкомпечати // СМИ в Беларуси: Хроника конфликтов: По материалам мониторинга Белорусской ассоциации журналистов (май 2000 — декабрь 2001). СПб., 2002. С. 31—33.

[5] Тамсама. С. 33—34.

[6] Н. Подгорная. Пресса как зеркало общества // Минский курьер. 2003. №28. 15 апреля.

[7] Прокурор Станислав Новиков: «Учим журналистов хорошей словесности...» // Народная газета. 2002. №283. 24 снежня.

артыкулаў 5 і 32 Закона аб друку[8] ў публікацыі Алены Панкратавай «Вялікае мыццё. Аўстрыйская прэса падкрэслівае прыватны характар апошняй Лукашэнкаўскай паездкі»[9]. Згаданы матэрыял быў друкаванаю версіяй рэпартажу А. Панкратавай на радыё «Свабода». Рэдакцыя газеты спрабавала дамагчыся скасавання папярэджання ў Вышэйшым гаспадарчым судзе, спасылаючыся на Закон аб друку, які ў падобных выпадках вызваляе рэдакцыю ад адказнасці за распаўсюд звестак (артыкул 47). Аднак Вышэйшы гаспадарчы суд стаў на бок Міністэрства інфармацыі:

> *«В статье 47 Закона закреплено положение о том, что редакция не несет ответственности за распространение сведений, не соответствующих действительности, порочащих честь и достоинство граждан или представляющих собой злоупотребление свободой массовой информации в определенных данной статьей случаях. Однако данная статья не освобождает от ответственности за распространение сведений, порочащих честь и достоинство Президента Республики Беларусь»*[10].

---

[8] Атрыманыя цягам года два папярэджанні за парушэнне артыкула 5 Закона аб друку могуць стаць падставаю для прыпынення дзейнасці выдання. Артыкул 5, сярод іншага, забараняе выкарыстоўваць СМІ для *«распространения сведений, порочащих честь и достоинство Президента Республики Беларусь, руководителей государственных органов, статус которых установлен Конституцией Республики Беларусь»*.

[9] Народная воля. 2002. №51. 20 сакавіка.

[10] Ліст у рэдакцыю газеты «Народная воля» ад 9 жніўня 2002 года №04-12/394Ни за подпісам намесніка старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда А. П. Ягорава.





10 ліпеня па факце распаўсюду згаданай інфармацыі была распачатая крымінальная справа.

6 лютага 2002 года Пракуратура Рэспублікі Беларусь вынесла папярэджанне за парушэнне артыкула 40 Закона аб друку карэспандэнту «Белорусской деловой газеты» Ірыне Макавецкай. На думку пракуратуры, журналістка ў адным са сваіх матэрыялаў[11] распаўсюдзіла *«сведения, порочащие правоохранительные органы»*. 7 лютага І. Макавецкую выклікалі на размову ў пракуратуру.

Паводле Закона аб друку (дапаўненне ад 13 снежня 1999 года), злоўжываннем свабодаю слова ёсць распаўсюд інфармацыі ад імя незарэгістраваных грамадскіх аб’яднанняў. 4 сакавіка 2002 года папярэджанне Пракуратуры Рэспублікі Беларусь за парушэнне артыкулаў 5 і 32 Закона аб друку атрымала газета «Наша Ніва», якая апублікавала каляднае пасланне святара незарэгістраванай у Беларусі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Івана Спасюка. 3-га траўня Вышэйшы гаспадарчы суд прызнаў папярэджанне несапраўдным, аднак пасля пратэсту генеральнага пракурора Віктара Шэймана рашэнне Вышэйшага гаспадарчага суда скасаванае.

### с. Ажыццяўленне цэнзуры

«Юрыдычны энцыклапедычны слоўнік» дае наступнае азначэнне цэнзуры:

---

[11] Рядовое дело // Белорусская деловая газета. 2001. №86. 5 декабря.

*«палітыка-прававы інстытут, які ажыццяўляе кантроль за зместам, абнародаваннем і распаўсюджаннем масавай інфармацыі з мэтай недапушчэння або абмежавання распаўсюджання інфармацыі і ідэй, якія прызнаюцца грамадствам і дзяржавай непажаданымі або шкоднымі»*[12].

У 2002 годзе дзяржаўныя органы працягвалі практыку запабягання распаўсюду «патэнцыйна шкоднай» інфармацыі.

9 ліпеня Дзяржаўны мытны камітэт прыняў пастанову, якою забараніў перавозіць праз мяжу электронныя, аўдыё-, відэа-, фота- і любыя тэкставыя матэрыялы, што могуць быць «патэнцыйна небяспечнымі» для палітычных або эканамічных інтарэсаў краіны.

Яшчэ да прыняцця гэтай пастановы 1 ліпеня 2002 года на мытным пераходзе «Бераставіца» (мяжа Беларусі з Польшчаю) мытнікі сканфіскавалі 210 асобнікаў польскага беларускамоўнага штомесячніка «Эмігрант», які ўвозіў у Беларусь кіраўнік Магілёўскага праваабарончага цэнтру Сяргей Абадоўскі. Часопіс «Эмігрант» асвятляе праблемы беларускай палітычнай эміграцыі ў Польшчы і, на думку мытнікаў, мог пашкодзіць палітычным або эканамічным інтарэсам Беларусі[13].

10 снежня 2002 года падчас мытнага агляду на чыгуначным вакзале г. Гродна былі сканфіскаваныя «самвыдатаўскія» кнігі пісьменніка Лявона Вашка, якія аўтар вывозіў у

[12] Юрыдычны энцыклапедычны слоўнік. Мінск, 1992. С. 589.
[13] Радыё «Свабода». 2002. 4 ліпеня (http://www.svaboda.org/news/articles/2002/07/20020704123350.asp).





Польшчу. Пісьменніку дазволілі правезці праз мяжу толькі адну кнігу — выдадзеную ў дзяржаўным выдавецтве.

У 2002 годзе служба маніторынгу БАЖ зафіксавала меншую колькасць выпадкаў папярэдняй (дазвальняльнай) цэнзуры. Гэты факт можа тлумачыцца тым, што год не вызначаўся палітычнай актыўнасцю — не праходзілі выбары, не адбываліся шматлюдныя маніфестацыі ці іншыя маштабныя публічныя акцыі.

31 жніўня 2002 года тэлевізійны канал ОНТ, які транслюецца на часціні расійскага каналу ОРТ, перакрыў трансляцыю дакументальнага фільма «Дзікае паляванне-2». Фільм апавядаў пра вядомых у Беларусі апазіцыйных палітыкаў і журналіста Дзмітрыя Завадскага, зніклых у 1999—2000 гадах. Каментуючы інцыдэнт, аўтар фільма Павел Шарамет працытаваў пазіцыю кіраўніцтва каналу:

*«Мы его [фильм] не видели сами, но уверены, что он дестабилизирует обстановку в стране»*[14].

У кастрычніку 2002 года кіраўнік ДП ЖЭУ-1 г. Віцебска Аляксандр Лысенка запатрабаваў ад рэдакцыі газеты «Витебский курьер» папярэдняга ўзгаднення інтэрв'ю карэспандэнта газеты з супрацоўніцаю прадпрыемства Раісаю Ждан. Спадарыня Ждан атрымлівала ўскосныя пагрозы з боку свайго кіраўніцтва, што будзе звольненая ў выпадку перадачы журналісту «Витебского курьера» хоць-якой інфармацыі, звязанай з яе прафесійнаю дзейнасцю. Газета адмовілася ад папярэдняга ўзгаднення матэрыялу.

[14] Радыё «Рацыя». 2002. 29 жніўня. Кіна не будзе... (http://www.racyja.pl/2002/Aug/2908smi3.shtml).

## d. Перашкаджанне ў вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ

У 2002 годзе служба маніторынгу БАЖ не зафіксавала ніводнага выпадку канфіскацыі накладаў друкаваных СМІ, а таксама адзначыла меншую, у параўнанні з папярэднімі гадамі, колькасць выпадкаў затрымання распаўсюднікаў газет.

1 верасня 2002 года, падчас святкавання Дня беларускага пісьменства ў Міры (Гродзенская вобласць), міліцыя затрымала двух распаўсюднікаў газеты Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны «Новы час» і сканфіскавала 100 асобнікаў выдання.

Цягам года з'яўляліся неаднаразовыя паведамленні пра затрыманні падчас распаўсюду друкаваных выданняў сябрамі незарэгістраванай моладзевай арганізацыі «Зубр». 4 красавіка 2002 года на 3 гадзіны былі затрыманыя 12 сябраў «Зубра», якія распаўсюджвалі спецвыпуск газеты «Народная воля». За падобную дзейнасць 18 чэрвеня ў Мінску затрымалі сябру «Зубра» Ганну Быкаву.

У некаторых выпадках цяжкасці з вырабам і распаўсюдам незалежных СМІ ўзнікалі ў выніку дзеянняў Міністэрства інфармацыі і дзяржаўных прадпрыемстваў.

На пачатку года дзяржаўнае унітарнае прадпрыемства «Пінская рэгіянальная друкарня» адмовілася заключыць дамову на 2002 год з недзяржаўнай газетай «Вечерний Столин», матывуючы свае дзеянні абмежаванасцю тэхнічных магутнасцяў. Усе іншыя кліенты друкарні (11 выданняў) здолелі





перазаключыць дамовы. Паводле неафіцыйнай інфармацыі, распараджэнне не працягваць дамовы з «Вечерним Столином» прыйшло з Пінскага гарвыканкаму і тлумачыцца *«апазіцыйнасцю газеты»*.

У жніўні 2002 года дзяржаўнае выдавецтва «Беларускі Дом друку», спасылаючыся на тэхнічныя прычыны адмовілася заключыць дамову на друк недзяржаўнай газеты «СНПлюс. Свободные новости плюс», якая пачала выдавацца замест зачыненай газеты «Свободные новости», а рэспубліканскае аб'яднанне «Белпошта» адмовілася разносіць новую газету падпісчыкам «Свободных новостей».

У лістападзе з'явілася інфармацыя пра тое, што «Белпошта» адмовілася ўключыць газету «СНПлюс. Свободные новости плюс» у каталог перыядычных выданняў на першае паўгоддзе 2003 года. У якасці юрыдычнай падставы называецца запазычанасць перад «Белпоштай» газеты «Свободные новости», якая спыніла выхад 22 жніўня ў выніку ўмяшання Міністэрства інфармацыі ў канфлікт паміж заснавальнікамі, не выканаўшы абавязкаў перад падпісчыкамі[15].

У лістападзе 2002 года, пасля званка з Міністэрства інфармацыі, прыватная друкарня «Светач» адмовілася друкаваць газету «Московский комсомолец в Белоруссии», выхад газеты прыпыніўся на некалькі месяцаў[16].

---

[15] Падрабязнасці закрыцця газеты «Свободные новости» гл.: Пункт а. Спыненне або прыпыненне дзейнасці СМІ ўладамі.
[16] Гл. Пункт h. Парушэнні, звязаныя з распаўсюдам замежнай інфармацыі.

## е. Абмежаванне права засноўваць СМІ

Згодна з артыкулам 3 Закона «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі»,

> *«граждане Республики Беларусь имеют право учреждать средства массовой информации, владеть, пользоваться и распоряжаться ими».*

На практыцы мясцовыя ўлады вельмі часта абмяжоўваюць гэтае права, забараняючы размяшчэнне рэдакцый новых медыяў на падведамасных тэрыторыях[17]. Шэраг судовых працэсаў, якія скончыліся на карысць грамадзянаў, аднак не прывялі да рэгістрацыі новых СМІ, выявіў адсутнасць механізму ўплыву на рашэнні мясцовых уладаў. Адсутнасць заканадаўча замацаваных крытэрыяў пры разглядзе мясцовымі ўладамі пытанняў аб размяшчэнні рэдакцый СМІ прывяла да фактычна нематываваных адмоваў. У 2002 годзе права грамадзянаў засноўваць сродкі масавай інфармацыі найчасцей парушалася ў Гродзенскай вобласці.

Гэтак, пачынаючы з 2001 года, беспаспяхова спрабаваў дамагчыся згоды на размяшчэнне ў г. Гродна рэдакцыі газеты «Новый век» індывідуальны прадпрымальнік Анатоль Макушын. У 2002 годзе пасля таго, як Гродзенскі гарвыканкам чатыры разы (18 лютага, 17 красавіка, 28 траўня і 21 чэрвеня) не даў згоды А. Макушыну на размяшчэнне рэдакцыі газеты, абгрунтоўваючы свае рашэнні ўсё новымі і новымі матывамі, — той звярнуўся ў Гаспадарчы суд Гродзенскай вобласці, які

[17] Патрабаванне да заснавальнікаў СМІ прыкладаць да заявы аб рэгістрацыі дакумент аб узгадненні размяшчэння СМІ з мясцовымі ўладамі было ўведзенае ў заканадаўства ў студзені 1998 г.





11 лістапада 2002 года прызнаў неправамоцным адно з рашэнняў мясцовых уладаў — ад 28 траўня. Тым не менш мясцовыя ўлады палічылі, што:

> *«решение суда ограничивает компетенцию местных исполнительных и распорядительных органов»*[18]*,*

і, спасылаючыся на ўласнае рашэнне ад 21 чэрвеня 2002 года, надалей адмаўляюцца ўзгадняць размяшчэнне рэдакцыі газеты. На 1 ліпеня 2003 года сітуацыя не змянілася.

У лютым—жніўні 2002 года гродзенскія ўлады адмовіліся ўзгодніць размяшчэнне прынамсі яшчэ 6 новых выданняў: у лютым — «Газета “Пагоня”» (заснавальнік Мікола Маркевіч), у сакавіку — газет «Мужыцкая праўда» (заснавальнік Мікола Маркевіч), «Рэха» (заснавальнік Гродзенскае гарадское грамадскае аб’яднанне ветэранаў вайны, працы і ўзброеных сілаў) ды «Каложа» (заснавальнік Гродзенская гарадская рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны), у траўні — «Голас» (заснавальнік Мікола Маркевіч), у жніўні — «Ведамасці» (заснавальнік Гродзенская гарадская рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны).

2 ліпеня Пінскі гарвыканкам (Брэсцкая вобласць) адмовіў індывідуальнаму прадпрымальніку Сяргею Касцюковічу ва ўзгадненні размяшчэння рэдакцыі СМІ, гэтак патлумачыўшы свае дзеянні:

> *«исполком исходил прежде всего из того, что в XXI веке явным анахронизмом является намерение без специаль-*

[18] Ліст да А. Макушына №М-1322 ад 18 снежня 2002 года за подпісам намесніка старшыні Гродзенскага гарвыканкаму В. Н. Лявонава.

*ного образования и подготовки заниматься ответственной профессиональной деятельностью, в том числе такой специфической, как редактирование газеты. Время дилетантов, то есть людей, занимающихся чем-либо без достаточной подготовки, необходимой для основательного знания предмета, ушло»*[19].

Няўдала скончыліся спробы заснавальніка «Новой газеты Сморгони» (Гродзенская вобласць) Рамуальда Улана зарэгістраваць два новыя выданні — «Новую газету Островца» і «Новую газету Ошмян». Пасля таго, як у 2001 годзе Смаргонскі райвыканкам адмовіўся ўзгадніць размяшчэнне рэдакцый СМІ, Гаспадарчы суд Гродзенскай вобласці двойчы (у снежні 2001 года і ў траўні 2002 года) прызнаваў гэтыя адмовы няпраўнымі.

У лістападзе 2002 года Смаргонскі райвыканкам ізноў адмовіўся ўзгадніць размяшчэнне рэдакцый, спаслаўшыся на выніку толькі што праведзенай праверкі нормаў пажарнай бяспекі, ды распачаў захады з мэтаю спыніць дзейнасць прадпрымальніка. 3-га лютага 2003 года суд задаволіў зыск райвыканкаму і прыпыніў дзейнасць індывідуальнага прадпрымальніка Р. Улана, паставіўшы тым самым «Новую газету Сморгони» пад пагрозу ліквідацыі.

19 лістапада 2002 года Гродзенскі гарвыканкам адмовіў індывідуальнаму прадпрымальніку Юрыю Лакціёнаву ва ўзгадненні размяшчэння рэдакцыі газеты «Разам!», матывуючы сваё рашэнне тым, што Ю. Лакціёнаў:

[19] Ліст да С. Касцюковіча №253/2Ко ад 2 ліпеня 2002 года за подпісам намесніка старшыні Пінскага гарвыканкаму А. А. Канеўскага.





*«обучается на факультете экономики и управления Гродненского государственного университета дневной формы обучения и не имеет достаточной подготовки в качестве журналиста и издателя»*[20].

3-га снежня 2002 года Міністэрства інфармацыі адмовіла Наталлі Клімянюк у рэгістрацыі газеты «Мир вестей» пасля таго, як Смаргонскі райвыканкам без тлумачэння прычын адклікаў сваё рашэнне аб узгадненні размяшчэння рэдакцыі.

### f. Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі

Абмежаванне доступу да інфармацыі — найбольш часты тып парушэнняў заканадаўства аб друку. У 2002 годзе яно рэалізоўвалася праз адмовы ў інфармацыі, абмежавальнае выкарыстанне інстытуту акрэдытацыі СМІ пры дзяржаўных органах, а таксама праз стварэнне перашкодаў пры атрыманні звестак, звязаных з дзейнасцю прэзідэнта краіны.

### 1) Адмова ў інфармацыі

Артыкул 33 Закона «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі» абмяжоўвае магчымасць адмовіць журналісту ў інфармацыі толькі тымі выпадкамі, калі інфармацыя ўтрымлівае:

[20] Рашэнне Гродзенскага гарвыканкаму №940 ад 19 лістапада 2002 года за подпісам старшыні гарвыканкаму А. І. Антоненкі і кіраўніка справамі гарвыканкаму А. І. Калачова.

*«сведения, составляющие государственную, коммерческую либо иную специально охраняемую законом тайну»*.

На практыцы журналісты часта сутыкаліся з неабгрунтаванымі адмовамі ў інфармацыі.

У студзені 2002 года старшыня Пінскага гарадскога савету (Брэсцкая вобласць) Ніна Кахновіч адмовілася даць карэспандэнту недзяржаўнай газеты «Брестский курьер» Паўлу Куніцкаму інфармацыю пра бюджэт горада на 2002 год.

У лютым, пасля пісьмовага звароту мясцовай філіі БАЖ у Пінскі гарсавет з просьбаю правесці прэс-канферэнцыю па пытанні гарадскога бюджэту на 2002 год, Н. Кахновіч паведаміла старшыні Пінскай філіі БАЖ, што кантактаванне з недзяржаўнаю прэсаю ў яе *«рабочем графике не значится»*.

У кастрычніку 2002 года журналісты Магілёўскага абласнога тэлебачання цягам 5 дзён не маглі атрымаць афіцыйнага пацвярджэння інфармацыі пра аварыю на прадпрыемстве «Дняпроўскае», у выніку якой загінулі людзі.

У тым жа месяцы ў Асіповічах (Магілёўская вобласць) журналісту незарэгістраванай мясцовай газеты «Панарама» Ігару Сімбіраву не дазволілі прысутнічаць на канферэнцыі, падчас якой адбывалася аб'яднанне мясцовых арганізацый Беларускага саюзу моладзі і Беларускага патрыятычнага саюзу моладзі ў Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі. Супрацоўніца райвыканкаму Наталля Змачынская патлумачыла журналісту, што яго прысутнасць *«на адказным раённым мерапрыемстве»* непажаданая.





У тым жа месяцы старшыня Савету па справах рэлігіі і нацыянальнасцяў пры Брэсцкім аблвыканкаме Васіль Марчанка адмовіў у інфармацыі журналісту газеты «Брестский курьер» Дзмітрыю Паталятаву. Журналіста цікавілі статыстычныя звесткі пра рэлігійныя арганізацыі розных канфесій, што дзейнічаюць у вобласці.

У лістападзе 2002 года суддзя Крычаўскага суда (Магілёўская вобласць) Вольга Окань выдаліла з адкрытага пасяджэння суда журналіста незарэгістраванай мясцовай газеты «Вольны горад» Вадзіма Сцефаненку. Перад гэтым суддзя забараніла прысутнічаць на пасяджэнні двум іншым супрацоўнікам газеты — Сяргею Няроўнаму і Мікалаю Маторанку. Суд разглядаў працоўны канфлікт паміж рабочымі і дырэкцыяй Крычаўскага завода гумовых вырабаў.

У снежні 2002 года кіраўнік аддзела адукацыі Светлагорскага райвыканкаму (Гомельская вобласць) Галіна Філіповіч без матывацыі адмовілася даць інтэрв'ю рэдактару мясцовай недзяржаўнай газеты «Регион-Вести» Мікалаю Паседзьку.

### 2) Абмежавальнае выкарыстанне інстытуту акрэдытацыі

Існаванне інстытуту акрэдытацыі пры выканаўчых камітэтах розных узроўняў, а таксама пры органах унутраных спраў істотна ўплывала на права недзяржаўных медыяў атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю. У 2002 годзе ўлады працягвалі выкарыстоўваць працэдуру акрэдытацыі ў якасці механізму абмежавання доступу недзяржаўных СМІ да афіцыйнай інфармацыі.

Гэтак, распрацаваны ўправаю інфармацыі і друку Гомельскага аблвыканкаму «Порядок участия работников средств массовой информации на мероприятиях, проводимых Гомельским облисполкомом», прадугледжвае папярэдняе паведамленне журналіста пра ягоны намер прысутнічаць на «мерапрыемстве» ў прэс-службу аблвыканкаму, а таксама:

*«ознакомление пресс-службой облисполкома некоторых должностных лиц и служб облисполкома со списками присутствующих корреспондентов»*[21].

У ліпені 2002 года гомельская філія БАЖ беспаспяхова звярталася ў аблвыканкам з просьбаю скасаваць згаданую пастанову.

На пачатку лістапада 2002 года старшыня Горацкага райвыканкаму (Магілёўская вобласць) Уладзімір Далжанкоў загадаў адклікаць акрэдытацыю пры райвыканкаме мясцовай недзяржаўнай газеты «Региональные ведомости». Адзін з чыноўнікаў выканкаму паведаміў, што адпаведнае распараджэнне прыйшло з вышэйшых органаў улады ў звязку з пачаткам падрыхтоўкі да мясцовых выбараў 2003 года.

Закон аб друку, артыкул 45 якога рэгламентуе акрэдытацыю замежных карэспандэнтаў, дазваляе Міністэрству замежных спраў уводзіць абмежаванні на акрэдытацыю журналістаў толькі тых краін, дзе абмяжоўваюцца правы беларускіх журналістаў. На практыцы гэтая норма закона трактавалася неабгрунтавана шырока.

[21] Ліст №35/38 ад 7 жніўня 2002 года, падпісаны першым намеснікам старшыні Гомельскага аблвыканкаму А. Бяляевым.





25 красавіка 2002 года Міністэрства замежных спраў адмовілася акрэдытаваць здымачную групу расійскага тэлеканалу НТВ на чале з Аляксандрам Калпаковым, якая мелася асвятляць падзеі, звязаныя з адзначэннем чарговай гадавіны аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

13 чэрвеня 2002 года прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў Павел Латушка не пусціў карэспандэнта радыё «Рацыя» Юрася Карманава ў будынак міністэрства, дзе мелася адбыцца прэс-канферэнцыя намесніка міністра замежных спраў Аляксандра Герасіменкі. Чыноўнік патлумачыў свае дзеянні тым, што зарэгістраваная ў Польшчы радыёстанцыя не мае акрэдытацыі ў беларускім МЗС, хоць дагэтуль само міністэрства, не паведамляючы прычын, тройчы адмаўляла карэспандэнтам радыё «Рацыя» ў акрэдытацыі.

Мелі месца пагрозы пазбавіць акрэдытацыі журналістаў замежных сродкаў масавай інфармацыі, якія дазвалялі крытыку ўладаў.

Гэтак, 9 студзеня 2002 года Міністэрства замежных спраў папярэдзіла карэспандэнта расійскага каналу НТВ Паўла Селіна за нібыта зневажальны і неаб’ектыўны характар каментарыя з нагоды арышту дырэктара Мінскага трактарнага завода Міхаіла Лявонава. 24 красавіка МЗС папярэдзіла карэспандэнта расійскага тэлеканала НТВ:

*«за создание предвзятых репортажей о социальной и политической ситуации в стране, показанных на канале НТВ 14, 19, 20 и 21 апреля»*

і заявіла пра тое, што журналіст можа быць пазбаўлены акрэдытацыі:

*«для работы в Беларуси, если он будет продолжать создавать недостоверные и оскорбительные репортажи»*[22].

Рэпартажы, якія сталі прадметам крытыкі ўладаў, асвятлялі праблему палітычнай эміграцыі, разгон дэманстрацыі апазіцыі 19 красавіка і суды над удзельнікамі дэманстрацыі.

1 жніўня 2002 года прадстаўнік амбасады Беларусі ў Празе перадаў дырэктару беларускай службы радыё «Свабода» (RFE/RL) Аляксандру Лукашуку ліст Міністэрства замежных спраў, у якім утрымлівалася патрабаванне акрэдытаваць пры МЗС журналістку Алену Панкратаву. У лісце гаварылася пра магчымае скасаванне акрэдытацыі ўсіх карэспандэнтаў радыё «Свабода» ў Беларусі ў выпадку, калі радыё:

*«воспользуется услугами неаккредитованных журналистов и других лиц на территории Республики Беларусь».*

6 жніўня А. Лукашук паведаміў, што прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў адмовіліся сустракацца з ім. Уціск на радыё «Свабода» распачаўся пасля таго, як увесну 2002 года А. Панкратава зрабіла некалькі рэпартажаў пра візіт А. Лукашэнкі ў Аўстрыю[23].

---

[22] Паўла Селіна пазбавілі акрэдытацыі і дэпартавалі з тэрыторыі Беларусі 28 чэрвеня 2003 года. 8 ліпеня 2003 года ўлады зачынілі карэспандэнцкі пункт НТВ у Беларусі.

[23] Адзін з гэтых рэпартажаў, перадрукаваны газетаю «Народная воля», стаў падставаю для вынясення газеце папярэджання (гл.: Пункт b. Папярэджанні) і завядзення крымінальнай справы (гл.: Раздзел 2. Крымінальны пераслед журналістаў).





### 3) Абмежаванне доступу да інфармацыі, звязанай з дзейнасцю кіраўніка краіны

Закон аб друку ніяк не абмяжоўвае права журналістаў на атрыманне інфармацыі пра дзейнасць кіраўніка дзяржавы. Аднак, пачынаючы з 1998 года, доступ журналістаў на любыя імпрэзы з удзелам прэзідэнта краіны рэгулюецца Рэгламентам правядзення мерапрыемстваў з удзелам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь[24].

Паводле Рэгламента, прэс-служба прэзідэнта, узгадняючы свае дзеянні са Службаю бяспекі, вызначае персанальны склад журналістаў і фотакарэспандэнтаў для асвятлення імпрэзаў з удзелам прэзідэнта. Цягам 2002 года выкарыстанне Рэгламента мела абмежавальны характар і неаднаразова прыводзіла да парушэння права журналістаў на атрыманне інфармацыі.

Гэтак, у ліпені 2002 года, падчас правядзення ў Віцебску музычнага фестывалю «Славянскі базар», з больш як 80 акрэдытаваных карэспандэнтаў друкаваных выданняў на адкрыццё, у якім удзельнічаў прэзідэнт, былі дапушчаныя каля 10 прадстаўнікоў беларускіх дзяржаўных выданняў, паводле спіса, складзенага прэс-службаю прэзідэнта.

6 верасня 2002 года на пасяджэнне аб'яднаўчага з'езду Беларускага рэспубліканскага саюзу моладзі з удзелам А. Лукашэнкі не трапілі акрэдытаваныя на з'ездзе прадстаўнікі недзяржаўных медыяў.

---

[24] Згаданы рэгламент быў зацверджаны ўказам прэзідэнта №19 ад 12 студзеня 1998 года і нідзе не публікаваўся.

На пачатку кастрычніка 2002 года рэдактар светлагорскай незалежнай газеты «Регион-вести» Мікалай Паседзька не атрымаў акрэдытацыі на сустрэчу прэзідэнта з калектывам Светлагорскага аб'яднання «Хімвалакно». Светлагорскі райвыканкам, які складаў спіс мясцовых журналістаў, што меркавалася дапусціць да ўдзелу ў сустрэчы, адмовіў М. Паседзьку без паведамлення прычын.

Гомельскі карэспандэнт газеты «Народная воля» Анатоль Гатоўчыц атрымаў адмову ў акрэдытацыі на тую ж сустрэчу ад прэс-службы прэзідэнта з прычыны *«запозненага звароту»*.

### g. Парушэнне прафесійнай самастойнасці рэдакцый

Паводле Закона аб друку, умяшанне ў дзейнасць і парушэнне прафесійнай самастойнасці рэдакцый ёсць замахам на свабоду масавай інфармацыі і караецца ў адпаведнасці з заканадаўствам (артыкул 48).

Тым не менш, улады намагаліся максімальна кантраляваць дзейнасць СМІ, трактуючы іх як адзін з інструментаў ідэалагічнага ўплыву на грамадства.

З мэтаю ўмацаваць дзяржаўную інфармацыйную палітыку у студзені 2002 года Міністэрства інфармацыіператварыла ўправы па наглядзе за выкананнем заканадаўства аб друку аблвыканкамаў ва ўправы інфармацыі, якія атрымалі права займацца рэалізацыяй дзяржаўнай інфармацыйнай палітыкі і палітыкі ў галіне СМІ.

У жніўні ў адным з інтэрв'ю «Белорусской газете» міністр інфармацыі Міхаіл Падгайны паведаміў, што ён кожны тыдзень спатыкаецца з рэдактарамі дзяржаўных СМІ і размаўляе пра планаваныя падзеі, а таксама публічна пацвердзіў небесстароннасць дзяржавы ў пытанні працы СМІ:

> *«У нас есть ориентация государственных СМИ, как освещать те или иные события. Это же государственные издания, они учреждены определенными органами власти»*[25].

У рэгіёнах органы выканаўчай улады мэтанакіравана праводзілі палітыку максімальнага кантролю за дзейнасцю мясцовых медыяў.

Гэтак, у студзені 2002 года Управа друку і інфармацыі Гомельскага аблвыканкаму зарганізавала семінар для рэдактараў дзяржаўных СМІ, на якім прадстаўнікі ўлады выказалі пажаданне, каб журналісты сталі *«праваднікамі дзяржаўнай палітыкі, улады, ураду»*.

3-га лістапада 2002 года Магілёўскі аблвыканкам правёў абласны семінар для кіраўнікоў ідэалагічных ведамстваў, намеснікаў па ідэалогіі рай- і гарвыканкамаў і рэдактараў дзяржаўных СМІ, падчас якога намеснік старшыні аблвыканкаму Анатоль Глаз папярэдзіў рэдактараў, што аблвыканкам будзе *«строга сачыць»* за зместам публікацый з пазіцый задач, пастаўленых перад медыямі на нарадзе: мясцовыя дзяржаўныя выданні не павінны *«шукаць смажаныя факты, нагнятаць абстаноўку і захапляцца крытыкай»*, а падаваць *«станоўчыя прыклады»*.

[25] Все свободны: неприкасаемые вне критики // Белорусская газета. 2002. №30. 5 августа.

Напрыканцы 2002 года з’явілася інфармацыя аб правядзенні ў дзяржаўных рэгіянальных СМІ атэстацыі супрацоўнікаў рэдакцый на адпаведнасць займаным пасадам. У Віцебску чыноўнік гарсавету паведаміў, што адна з мэтаў атэстацыі — *«падказаць журналістам, у якім кірунку трэба працаваць»*.

Сведчаннем імкнення дзяржавы кантраляваць дзейнасць медыяў сталі праведзеныя ў 2002 годзе рэарганізацыі рэдакцый і кадравыя змены.

На пачатку сакавіка 2002 года рэдакцыі дзяржаўных перыядычных выданняў атрымалі ліст Міністэрства інфармацыі, у якім «рэкамендавалася» скараціць штаты рэдакцый на 20%.

У лютым–чэрвені 2002 года Міністэрства інфармацыі зліквідавала рэдакцыі літаратурных часопісаў «Полымя», «Нёман», «Крыніца», «Маладосць» і «Всемирная литература», стварыўшы на базе згаданых выданняў і газеты «Літаратура і мастацтва» рэдакцыйна-выдавецкую ўстанову «Литература и искусство». Міністэрства інфармацыі праігнаравала тое, што часопісы «Полымя», «Нёман» і «Маладосць» мелі двух заснавальнікаў (Саюз беларускіх пісьменнікаў і Міністэрства інфармацыі), а часопіс «Крыніца» і газета «Літаратура і мастацтва» былі заснаваныя толькі Саюзам беларускіх пісьменнікаў. У звязку з рэарганізацыяй звольнілі частку супрацоўнікаў рэдакцый, а некаторыя супрацоўнікі звольніліся самі на знак пратэсту.

У жніўні 2002 года рэдакцыі часопіса «Мастацтва» і газеты «Культура» рэарганізаваныя ў рэдакцыйна-выдавецкую





ўстанову «Культура і мастацтва». Частку супрацоўнікаў часопіса «Мастацтва» звольнілі «па скарачэнні штату», некаторыя супрацоўнікі выдання звольніліся на знак пратэсту.

8 жніўня 2002 года з пасады галоўнага рэдактара газеты «Беларускі час» (заснавальнік Федэрацыя прафсаюзаў Беларуская) звольнілі Аляксандра Старыкевіча. Адпаведны загад падпісаў старшыня ФПБ Леанід Козік — нягледзячы на адмову прэзідыуму Федэрацыі звольніць галоўнага рэдактара газеты.

Як і раней, кіраўнікі найбуйнейшых дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі прызначаліся або самім прэзідэнтам, або з ягонай згоды.

Гэтак, у лютым 2002 года А. Лукашэнка ўхваліў прызначэнне Рыгора Кісяля на пасаду кіраўніка закрытага акцыянернага таварыства «Второй национальный телеканал». У кастрычніку прэзідэнт памяняў кіраўніцтва тэлевізійнага каналу «СТВ», прызначыўшы на пасаду генеральнага дырэктара Аляксандра Зімоўскага. У снежні кіраўнік краіны прызначыў генеральным дырэктарам дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва БелТА супрацоўніка Службы бяспекі Алега Праляскоўскага.

У 2002 годзе з’яўлялася інфармацыя пра спробы дзяржаўных органаў уплываць на рэдакцыйную палітыку прыватных медыяў. Гэтак, 25 ліпеня падчас селектарнай нарады А. Лукашэнка выказаў незадаволенасць з таго, як недзяжаўныя СМІ асвятляюць «уборачную кампанію», і заклікаў міністра інфармацыі *«привести в чувства»* «апазіцыйную» прэсу, выкарыстаўшы ўсе магчымыя сродкі ўплыву на яе.

У верасні ў інтэрв'ю расійскай «Независимой газете» міністр М. Падгайны заявіў, што для яго:

*«не существует такого понятия, как оппозиционные СМИ. У нас вся пресса государственная».*

У тым жа месяцы Міністэрства інфармацыі пачало праводзіць штотыднёвыя нарады кіраўнікоў мінскіх FM-станцый, абсалютная большасць якіх — прыватныя. У інтэрв'ю «Белорусской деловой газете» міністр інфармацыі прызнаў, што на гэтых нарадах вырашаецца праблема атрымання станцыямі *«патрэбнай інфармацыі»*:

*«Я ввожу их в курс дела, рассказываю о том, что происходит в стране, на что нужно обратить внимание. Если мне что-то не нравится в информационных выпусках, я об этом тоже говорю»*[26].

## h. Канфлікты, звязаныя з распаўсюдам замежнай інфармацыі

Артыкул 44 Закона «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі» гарантуе бесперашкодны доступ да замежных сродкаў масавай інфармацыі і абумоўлівае толькі магчымасць абмежавання прыёму тэлевізійных праграм:

*«в случаях, предусмотренных международными договорами, заключенными Республикой Беларусь».*

13 жніўня 2002 года была спыненая трансляцыя ў Беларусі расійскіх радыёстанцый «Юность» і «Маяк», а таксама

[26] FM на привязи // Белорусская деловая газета. 2002. №154. 16 октября.





быў скарочаны час трансляцыі тэлеканалаў НТВ, РТР і «Культура». Намеснік старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Аляксандр Зімоўскі патлумачыў такія дзеянні эканамічнымі прычынамі — запазычанасцю расійскіх медыяў.

У той жа час кіраўніцтва тэлекампаніі НТВ цвердзіла, што цалкам аплаціла распаўсюд свайго сігналу на тэрыторыі Беларусі.

У траўні 2002 года Белтэлерадыёкампанія спрабавала весці неліцэнзаваную трансляцыю чэмпіянату свету па футболе. 31 траўня Беларускае тэлебачанне паказала першы матч чэмпіянату, рэтранслюючы «НТВ-плюс». Пасля таго, як «НТВ-плюс» абвінаваціла Белтэлерадыёкампанію ў пірацкай трансляцыі матчу і заявіла пра намер запатрабаваць кампенсацыі стратаў, Беларускае тэлебачанне купіла правы на трансляцыю матчаў чэмпіянату.

З лістапада 2002 года перастала распаўсюджвацца газета «Московский комсомолец в Белоруссии»[27], першы нумар якой з'явіўся ў жніўні. УП «Светач» адмовілася яе друкаваць, спаслаўшыся на адсутнасць пасведчання аб рэгістрацыі ў Беларусі і на вуснае распараджэнне з Міністэрства інфармацыі. Цягам трох папярэдніх месяцаў газета распаўсюджвалася як зарэгістраванае ў Маскве выданне, на падставе беларуска-расійскага міжурадавага пагаднення ў галіне друку, якое прадугледжвае бесперашкоднае:

*«распространение на территории своего государства продукции печатных средств массовой информации, за-*

[27] Выхад газеты аднавіўся толькі ў 2003 годзе.

*регистрированных и действующих на законных основаниях в государстве другой Стороны»*[28].

Нягледзячы на тое, што Закон аб друку прадугледжвае рэгістрацыю СМІ на працягу месяца, Міністэрства інфармацыі зацягвала працэс рэгістрацыі газеты «Московский комсомолец в Белоруссии» цягам года.

[28] Соглашение между Правительством Российской Федерации и Правительством Республики Беларусь о сотрудничестве в области печати от 19 февраля 1998 года. Статья 3.

# Раздзел 2

# КРЫМІНАЛЬНЫ ПЕРАСЛЕД ЖУРНАЛІСТАЎ

Цягам 2002 года служба маніторынгу БАЖ зафіксавала 7 выпадкаў, калі супраць журналістаў або па фактах публікацый у СМІ распачыналася крымінальнае следства: 5 з іх — паводле артыкулаў Крымінальнага кодэкса (КК) — 367 «Паклёп на Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь» і 368 «Зняважа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь», 2 выпадкі — паводле артыкула 188 «Паклёп». На канец года трох журналістаў асудзілі да абмежавання свабоды, адна справа скончылася асуджэннем да зняволення з адтэрмінаваннем выканання прысуду, а тры засталіся на дасудовай стадыі.

14 лютага 2002 года Гродзенская абласная пракуратура абвінаваціла рэдактара зачыненай у лістападзе 2001 года газеты «Пагоня» Міколу Маркевіча і журналіста гэтага ж





выдання Паўла Мажэйку ў «паклёпе на Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, звязаным з абвінавачаннем у здзяйсненні цяжкога злачынства» (артыкул 367 КК). На думку абвінаваўцы, паклёпніцкія выказванні ўтрымліваліся ў трох артыкулах, апублікаваных у №36 газеты «Пагоня» за 4 верасня 2001 года[29].

24 чэрвеня суд Ленінскага раёна г. Гродна прызнаў журналістаў вінаватымі і прысудзіў М. Маркевіча да 2 гадоў абмежавання свабоды, а П. Мажэйку — да 1,5 гадоў абмежавання свабоды. 15 жніўня судовая калегія Гродзенскага абласнога суда адхіліла касацыйную скаргу М. Маркевіча і П. Мажэйкі, аднак зменшыла тэрмін пакарання кожнаму на 1 год паводле закона «Аб амністыі».

1 верасня М. Маркевіч пачаў адбываць пакаранне ва ўстанове адкрытага тыпу («на хіміі») у г. Асіповічы Магілёўскай вобласці, а П. Мажэйка — у такой жа ўстанове ў г. Жлобіне Гомельскай вобласці. Журналістам не дазволілі ўладкавацца на працу па спецыяльнасці.

20 чэрвеня 2002 года пракуратура Першамайскага раёна г. Мінска абвінаваціла рэдактара газеты «Рабочы» Віктара Івашкевіча ў спробе паклёпу і зняважы прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (артыкулы 367 і 368 КК), якія выявіліся ў публікацыі ўзятага з Інтэрнэту артыкула «Вор должен сидеть в тюрьме!» і фотакалажа са здымкам чалавека, падобнага да А. Лукашэн-

[29] Згаданы нумар газеты не распаўсюджваўся, бо быў арыштаваны ў друкарні падчас вытворчасці. На момант пачатку крымінальнага следства нумар газеты нават не пачалі друкаваць (падрабязней гл.: СМИ в Беларуси: Хроника конфликтов: По материалам мониторинга Белорусской ассоциации журналистов (май 2000 — декабрь 2001). СПб., 2002. С. 104).

кі[30]. 16 верасня В. Івашкевіча прызналі вінаватым у спробе ажыццявіць паклёп і знявагу прэзідэнта і прысудзілі да 2 гадоў абмежавання свабоды. Судовы працэс адбываўся за зачыненымі дзвярыма, журналістам дазволілі прысутнічаць толькі падчас абвяшчэння рэзалюцыйнай часткі прысуду.

15 снежня журналіст пачаў адбываць пакаранне ў папраўчай установе адкрытага тыпу ў г. Баранавічы.

10 ліпеня 2002 года распачатая крымінальная справа (артыкул 367 КК) па факце распаўсюду інфармацыі пра візіт А. Лукашэнкі ў Аўстрыю ўвесну 2002 года. Аўтара матэрыялу, які прагучаў на радыё «Свабода» і быў пазней перадрукаваны газетаю «Народная воля», Алену Панкратаву выклікалі на допыт у пракуратуру ў якасці сведкі.

12 ліпеня 2002 года пракуратура Савецкага раёна г. Мінска азнаёміла старшыню Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзьку з пастановай аб узбуджэнні крымінальнай справы (артыкул 367 КК) па факце публікацыі ў лістападзе 2001 года ў газеце «Народная воля» артыкула «Бандиты финансируют белорусский режим?»[31]. Аўтар згаданага артыкула працытаваў выказванне А. Лябедзькі расійскаму інтэрнэт-выданню Gazeta.ru, які абвінаваціў улады Беларусі ў нелегальным гандлі зброяй.

---

[30] Згаданыя матэрыялы былі надрукаваныя напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2001 года ў спецвыпуску «Рабочага» (№36). Гэты нумар не распаўсюджваўся, бо 28 жніўня 2001 года ў друкарні «Мэджык» пракуратура Першамайскага раёна г. Мінска сканфіскавала ўвесь надрукаваны наклад у якасці «рэчавых доказаў».
[31] Народная воля. 2001. №206. 2 лістапада.





Справы, заведзеныя ў 2002 годзе паводле артыкула 188 КК, датычылі кіраўніцтва Пракуратуры Рэспублікі Беларусь.

25 ліпеня пракуратура Ленінскага раёна г. Мінска абвінаваціла адваката Ігара Аксёнчыка — прадстаўніка маці зніклага тэлеаператара Дзмітрыя Завадскага — у *«паклёпе на генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь, звязаным з абвінавачаннем у здзяйсненні цяжкога злачынства»* (артыкул 188 КК). Нагодаю для распачацця крымінальнай справы стала заява для друку, якую І. Аксёнчык зрабіў у часе судовага следства па справе аб знікненні Дзмітрыя Завадскага. 11 лістапада суд прысудзіў І. Аксёнчыка да 1 года 6 месяцаў зняволення з адтэрмінаваннем пакарання на 2 гады.

20 верасня 2002 года пракуратура г. Мінска выставіла крымінальнае абвінавачанне (артыкул 188 КК) журналістцы Ірыне Халіп па факце публікацыі ў газеце «БДГ. Для служебного пользования» артыкулаў «Афганские борзые в погоне за семьей экс-главы Белгоспищепрома» і «Афганские борзые-2». І. Халіп абвінавацілі ў паклёпе на кіраўніцтва Пракуратуры Рэспублікі Беларусь і следчую групу, якая займалася справаю былога кіраўніка канцэрну «Белдзяржхарчпрам» Віктара Казекі і ягонага сына.

# Раздзел 3
# ЗАМАХІ НА ЖУРНАЛІСТАЎ І МЕДЫІ

## a. Публічныя пагрозы на адрас журналістаў і СМІ

Цягам года рэгіянальныя карэспандэнты службы маніторынгу БАЖ неаднаразова паведамлялі пра тое, што прадстаўнікі мясцовых уладаў выступалі з рэзкаю крытыкаю медыяў. На агульнанацыянальным узроўні мелі месца публічныя пагрозы на адрас газеты «Народная воля».

17 верасня 2002 года падчас прэс-канферэнцыі для беларускіх і замежных сродкаў масавай інфармацыі, адказваючы на пытанне журналіста «Народнай волі» Аляксандра Сіліча пра спецыяльны прэзідэнцкі фонд, А. Лукашэнка паведаміў:





*«Если президентский фонд существует, куда поступают средства от энергоносителей и оружия, как вы здесь сказали, — я завтра не президент. Но если нет — то “Народнай волі” в Беларуси тоже не будет... Будете, извините меня, провоцировать, при том вести себя незаконно, мы не посмотрим на ваших хозяев. Вы по белорусским законам будете нести ответственность. Вы это должны четко и предельно осознавать. Это я говорю вам публично в открытом прямом эфире, перед всем народом: будете отвечать».*

25 верасня 2002 года старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Леанід Козік (да гэтага прызначэння — намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта) выступіў з востраю крытыкаю газет «Народная воля» і «Белорусский рынок» за неаб’ектыўныя, на ягоную думку, публікацыі пра з’езд ФПБ. Тады ж Л. Козік афіцыйна звярнуўся ў Міністэрства інфармацыі і Адміністрацыю прэзідэнта з патрабаваннем зачыніць газету «Народная воля». Пасля таго, як Міністэрства інфармацыі не знайшло падставаў прыпыніць дзейнасць выдання, 16 лістапада Л. Козік звярнуўся ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь з просьбаю завесці па факце публікацыі крымінальную справу. Аднак Пракуратура адмовілася пачаць пераслед газеты.

## b. Затрыманні журналістаў

2 красавіка 2002 года ў Мінску каля папраўчай установы закрытага тыпу («калоніі») №15/1 па вуліцы Кальварыйскай на гадзіну была затрыманая здымачная група расійскай тэлекампаніі НТВ, якая брала інтэрв’ю ў Галіны Бандажэўскай — жонкі былога рэктара Гомельскага дзяржаўнага медыцынска-

га універсітэта[32]. Кіраўніцтва папраўчай установы заявіла, што здымаць рэжымны аб'ект без адпаведнага дазволу забаронена. Журналістаў адпусцілі пасля таго, як яны далі пісьмовыя тлумачэнні.

24 красавіка 2002 года падчас выканання службовых абавязкаў — асвятлення ўрачыстасцяў на Дзень Волі — былі затрыманыя 8 журналістаў, сярод якіх фотакарэспандэнты Васіль Фядосенка (Reuters) і Сяргей Грыц (Associated Press). Людзі ў міліцэйскай форме пабілі камеру фотарэпарцёра ИТАР-ТАСС Віктара Талочкі.

5 красавіка 2002 года ў Гродне міліцыя затрымала 13 журналістаў, якія зарганізавалі тры несанкцыяваныя пікеты супраць крымінальнага пераследу супрацоўнікаў зачыненай газеты «Пагоня» Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі. Большасць з затрыманых журналістаў былі пакараныя адміністратыўнымі штрафамі або атрымалі папярэджанні; некалькі журналістаў, у тым ліку Вітаўт Руднік, Анджэй Пісальнік, Стас Пачобут, былі арыштаваныя на розныя тэрміны (максімальны — 10 дзён).

Несанкцыяваныя пікеты былі справакаваныя мясцовымі ўладамі, якія адмовіліся даць згоду на правядзенне акцый. Беларуская асацыяцыя журналістаў выступіла з пратэстам супраць прыцягнення журналістаў да адміністратыўнай адказнасці.

26 ліпеня 2002 года міліцыя Бераставіцкага раёна (Гродзенская вобласць) затрымала і аштрафавала за парушэнне

[32] Юры Бандажэўскі абвінавачаны ў хабарніцтве і адбывае 8-гадовае пакаранне ў згаданай калоніі.





правілаў уезду ў памежную зону карэспандэнта газеты «Głos znad Niemna» Андрэя Пачобута і карэспандэнта газеты «Народная воля» Валерыя Шчукіна. Канфлікт адбыўся падчас кампаніі разбурэння мясцовымі ўладамі недабудаванай святыні Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў пасёлішчы Пагранічны.

28 ліпеня ў Пагранічным былі затрыманыя і аштрафаваныя намеснік старшыні Гродзенскай філіі БАЖ Уладзімір Хільмановіч і старшыня Гродзенскага аддзялення праваабарончага цэнтру «Вясна» Сяргей Мальчык. У той жа дзень у Пагранічным супрацоўнікі Бераставіцкага РУУС ізноў затрымалі Валерыя Шчукіна і суд прызнаў яго вінаватым у непадпарадкаванні законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі і прысудзіў да 15 сутак адміністратыўнага арышту.

1 жніўня ў Пагранічным затрымалі журналістаў Андрэя Пачобута, Ірыну Чарняўку і Анджэя Пісальніка. Журналісты правялі ноч у міліцэйскім пастарунку ў Бераставіцы, а наранiцы іх аштрафавалі за парушэнне правілаў уезду ў памежную зону. 30 жніўня суд прызнаў пастанову аб спагнанні штрафаў з журналістаў незаконнаю.

### с. Замахі на жыццё і здароўе журналістаў

У 2002 годзе не з'явілася новай інфармацыі пра месца знаходжання зніклага ў ліпені 2000 года аператара расійскага тэлеканала ОРТ Дзмітрыя Завадскага. 14 сакавіка Мінскі абласны суд прызнаў вінаватымі ў выкрадання Дзмітрыя Завадскага былых супрацоўнікаў спецпадраздзялення МУС «Алмаз» Валерыя Ігнатовіча і Максіма Маліка, прысудзіўшы іх да пажыццёвага зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму і да

канфіскацыі маёмасці. Асуджаныя не прызналі сябе вінаватымі. Суд праходзіў у закрытым для прэсы рэжыме.

Пасля абвяшчэння прысуду Беларуская асацыяцыя журналістаў звярнулася ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь з абгрунтаваннем неабходнасці правесці дадатковае следства па факце знікнення Дзмітрыя Завадскага.

16 ліпеня калегія Вярхоўнага суда адхіліла касацыйныя скаргі адвакатаў сям'і Дз. Завадскага і сваякоў асуджаных. Абодва бакі сцвярджалі, што доказы, выкарыстаныя судом першай інстанцыі ў якасці абгрунтавання прысуду, былі атрыманыя з парушэннем працэсуальных нормаў. Разгляд касацыйнай скаргі таксама адбываўся ў закрытым рэжыме.

У лістападзе да 1 года 6 месяцаў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай прысуду на 2 гады быў асуджаны адвакат маці Дз. Завадскага Ігар Аксёнчык[33].

## d. Замахі на маёмасць рэдакцый СМІ

У 2002 годзе скарацілася ў параўнанні з папярэднім (годам прэзідэнцкіх выбараў) колькасць вядомых Беларускай асацыяцыі журналістаў выпадкаў замаху на маёмасць рэдакцый СМІ.

У лютым 2002 года галоўнаму рэдактару аршанскай газеты «Куцейна» Віктару Андрэеву ў выніку судовага разгляду ўдалося вярнуць сканфіскаваны ўладамі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў рызограф.

[33] Падрабязней пра гэты інцыдэнт гл.: Раздзел 2. Крымінальны пераслед журналістаў.





Цягам года служба маніторынгу БАЖ зафіксавала два выпадкі канфіскацыі абсталявання ў выніку судовых канфліктаў паміж медыямі і ўладамі. Гэтак, пасля таго як суд, разгледзеўшы зыск старшыні Камітэту дзяржкантролю Анатоля Тозіка супраць газеты «Наша свабода», вырашыў справу на карысць чыноўніка, — газета была змушаная спыніць сваю дзейнасць, а ў лістападзе маёмасць, якая належала супрацоўнікам газеты «Наша свабода», падлегла канфіскацыі.

28 лістапада 2002 года Гаспадарчы суд г. Брэста прыняў рашэнне сканфіскаваць частку маёмасці часопіса «СЭЗ: Свободная экономическая зона» ў залік сплаты даўгоў рэдакцыі за арэнду і камунальныя паслугі. Верагодна, фінансавыя цяжкасці выдання сталіся вынікам таго, што ў 2002 годзе са складу заснавальнікаў выйшлі тры з чатырох суб'ектаў: Міністэрства інфармацыі, Брэсцкі аблвыканкам і адміністрацыя свабоднай эканамічнай зоны «Мінск».

Як і ў папярэднія гады, працягваліся напады на памяшканні рэдакцый, у выніку якіх СМІ панеслі матэрыяльныя страты. Гэтак, 14 ліпеня 2002 года невядомыя абакралі офіс ЗАТ «БелКП-ПРЕСС», які месціцца ў ахоўваным будынку: знікла камп'ютарнае абсталяванне, на якім выдаваліся газеты «Комсомольская правда в Белоруссии», «Ва-банк», «Антенна» ды «Известия». У выніку суботні выпуск газеты «Комсомольская правда в Белоруссии» выйшаў у маскоўскай версіі — без беларускай укладкі.

Уначы на 5 жніўня 2002 года ў памяшканні рэдакцыі газеты «Згода» (г. Мінск) былі раскамплектаваныя ўсе камп'ютары, зніклі вінчэстэры, сістэмныя блокі і ўся інфармацыйная

база выдання. Іншыя каштоўныя рэчы: відэаапаратура і грошы, якія таксама захоўваліся ў рэдакцыі, — злачынцаў не зацікавілі. У выніку крадзяжу газета не выходзіла на працягу месяца.

У 2002 годзе ў г. Бабруйску (Магілёўская вобласць) двойчы абакралі дзяржаўную раённую газету «Трыбуна працы». У снежні злодзеі забралі з памяшкання рэдакцыі ўсе каштоўныя рэчы. За некалькі месяцаў да гэтага знік камп'ютар. Рэдакцыя газеты знаходзіцца ў памяшканні, якое не ахоўваецца і не абсталяванае сігналізацыяй.

# Раздзел 4

# СУДОВЫЯ ПРАЦЭСЫ АБ АБАРОНЕ ГОНАРУ І ГОДНАСЦІ

Як і ў папярэднія гады, улады працягвалі выкарыстоўваць суды як інструмент пакарання недзяржаўных медыяў. У выніку працэсу аб абароне гонару і годнасці ў 2002 годзе перастала выходзіць газета «Наша свабода».

2 жніўня 2002 года за адзін дзень суд Маскоўскага раёна г. Мінска разгледзеў зыск аб абароне гонару і годнасці старшыні Камітэту дзяржаўнага кантролю Анатоля Тозіка да рэдакцыі газеты «Наша свабода» і журналіста Міхаіла Падаляка. Суд прызнаў звесткі, апублікаваныя ў артыкуле «Конфиденциально» 16 ліпеня таго ж года, *«недаставернымі і зневажальнымі»* ды прысудзіў спагнаць з газеты — 100 млн. рублёў і з журналіста — 5 млн. (разам — каля 56 тыс. долараў ЗША).





За два дні да разгляду справы, 31 ліпеня, былі арыштаваныя рахунак і маёмасць рэдакцыі. 27 жніўня, пасля судовай канфіскацыі сродкаў трэціх асоб, прызначаных на друк накладу, галоўны рэдактар выдання Павел Жук абвесціў пра спыненне выхаду газеты.

Матэрыял, публікацыя якога прывяла да закрыцця выдання, датычыў нібыта непрыязных стасункаў паміж старшынём Камітэту дзяржкантролю А. Тозікам і генеральным пракурорам В. Шэйманам.

12 верасня Мінскі гарадскі суд пакінуў рашэнне суда першай інстанцыі без зменаў.

У шэрагу выпадкаў падчас працэсаў аб абароне гонару і годнасці мелі месца арышты рахункаў газет, што істотна ўскладняла функцыяванне СМІ.

21 сакавіка 2002 года суд Смаргонскага раёна (Гродзенская вобласць) задаволіў зыск аб абароне гонару, годнасці і справавай рэпутацыі прадпрымальніка Пятра Найдзіча да рэдакцыі «Новой газеты Сморгони» і журналісткі Ірыны Ясінскай. 2 красавіка судовыя выканаўцы арыштавалі разліковы рахунак рэдакцыі ды маёмасць журналісткі і заснавальніка газеты Рамуальда Улана. Памер сумы, на якую судовыя выканаўцы ацанілі апісаную імі маёмасць, аказаўся ўдвая большы за памер кампенсацыі, да якой прысудзіў газету суд (2 млн. рублёў). Арышт з рахунку быў зняты пасля таго, як Р. Улан абскардзіў вызначэнне суда.

18 чэрвеня 2002 года суд Ленінскага раёна г. Мінска арыштаваў 5 млн. рублёў (каля 2 700 долараў ЗША) на разліковым рахунку рэдакцыі газеты «Народная воля», забараніўшы газеце выкарыстоўваць гэтую суму да сканчэння судовага пра-

цэсу аб абароне гонару, годнасці і спраравай рэпутацыі суддзяў Жодзінскага суда Аліны Клус і Ларысы Фралінковай супраць рэдакцыі газеты «Народная воля» і Уладзіміра Іванова. Рэдакцыя газеты звярнулася ў суд вышэйшай інстанцыі з просьбаю скасаваць гэтую пастанову і абраць іншы шлях забеспячэння зыску, які б не замінаў дзейнасці рэдакцыі. 8 ліпеня Мінскі гарадскі суд адхіліў скаргу рэдакцыі газеты. 29 ліпеня судовы разгляд справы скончыўся міравым пагадненнем, паводле якога рэдакцыя забавязалася сплаціць судовыя выдаткі, а таксама выплаціць па 750 тыс. рублёў (каля 400 долараў ЗША) кампенсацыі маральнай шкоды. Галоўны рэдактар газеты Іосіф Сярэдзіч заявіў, што ў выніку арышту рахунку рэдакцыі штодзённыя страты газеты складалі 50 тыс. рублёў.

У 2002 годзе суды разглядалі яшчэ прынамсі 2 зыскі дзяржаўных службоўцаў аб абароне гонару і годнасці да газеты «Народная воля»: былога намесніка старшыні Мінскага гарыканкаму А. Балакірава да рэдакцыі газеты і журналісткі Марыі Эйсмант (запатрабаваная сума кампенсацыі маральнай шкоды — 10 млн. рублёў з рэдакцыі і 1 млн. рублёў з журналісткі) і былой суддзі Тамары Злобіч да рэдакцыі газеты і аўтара Сяргея Навоева (сума кампенсацыі маральнай шкоды, запатрабаваная з рэдакцыі — 5 млн. рублёў). Абедзве справы скончыліся міравым пагадненнем.

# Раздзел 5

# ЭКАНАМІЧНАЯ ПАЛІТЫКА Ў ГАЛІНЕ СМІ

Артыкул 3 Закона «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі» сцвярджае:

*«Государство рассматривает систему средств массовой информации как основу реализации конституционного права граждан Республики Беларусь на свободу слова и информации, как важную составную часть национальной культуры и определяет меры, направленные на обеспечение экономической поддержки средств массовой информации».*

Як і ў папярэднія гады, эканамічныя прэферэнцыі меў дзяржаўны сектар медыя-рынку, што стварала няроўныя ўмовы канкурэнцыі для СМІ недзяржаўнай формы ўласнасці. У жніўні міністр інфармацыі Міхаіл Падгайны ў інтэрв'ю





«Белорусской газете» прызнаў, што дзяржаўныя газеты маюць:

*«подкрепленную законом убежденность, что если издание не выйдет по итогам месяца или полугодия на определенные экономические показатели, государство компенсирует их убытки»*[34].

Паводле афіцыйнай інфармацыі, колькасць фінансаваных з дзяржаўнага бюджэту выданняў штогод скарачаецца, аднак у 2002 годзе такіх выданняў заставалася даволі шмат. Спіс фінансаваных у 2002 годзе Міністэрствам інфармацыі перыядычных выданняў, складзены дзяржаўным унітарным прадпрыемствам «Мінгарсаюздрук», уключаў 42 пазіцыі: 17 агульнанацыянальных газет (у тым ліку «Советская Белоруссия», сузаснавальнік якой — Адміністрацыя прэзідэнта) і 25 часопісаў (у тым ліку выданне Адміністрацыі прэзідэнта «Беларуская думка»).

Аб'ём штогадовых бюджэтных датацый дзяржаўным медыям на агульнабеларускім узроўні вызначае Закон аб бюджэце, а на мясцовым — рашэнні мясцовых органаў улады. У 2002 годзе на падтрымку дзяржаўнага сектару нацыянальны бюджэт прадугледжваў 38,2 млрд. рублёў (24,2 млн. долараў ЗША), у тым ліку на падтрымку друку і выдавецтваў — 10,8 млрд. рублёў (6,8 млн. долараў ЗША), тэлебачання і радыё — 26,5 млрд. рублёў (16,7 млн. долараў ЗША). Мясцовыя бюджэты таксама прадугледжвалі выдаткі на СМІ: напрыклад, у сталіцы яны склалі 2,7 млрд. рублёў (1,7 млн. долараў ЗША). Невялікія выдаткі на СМІ планаваліся таксама ў абласных бюджэтах.

---

[34] Все свободны: неприкасаемые вне критики // Белорусская газета. 2002. №30. 5 августа.

Цягам года ажыццяўлялася выкананне пастановы Савету міністраў №1362 ад 1 верасня 2000 года «Аб умацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы рэдакцый перыядычных выданняў». Рэдакцыі друкаваных СМІ, якія фінансуюцца з агульнанацыянальнага бюджэту, атрымалі камп'ютарную, выдавецкую і спецыяльную тэхніку на суму 141 млн. 188 тыс. рублёў (89 тыс. долараў ЗША). На мясцовым узроўні працягвала дзейнічаць фінансаваная з бюджэту праграма падтрымкі цэнтралізаванай сістэмы выдання дзяржаўнага рэгіянальнага друку.

Нягледзячы на тое, што ў Беларусі афіцыйна дэкларуюцца роўныя ўмовы гаспадарання СМІ розных формаў уласнасці, у 2002 годзе прадстаўнікі ўладаў зрэдчас прызнавалі адваротнае. Гэтак, старшыня Сталай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу па правах чалавека, нацыянальных дачыненнях і сродках масавай інфармацыі Валерый Ліпкін у інтэрв'ю газеце «Звязда» згадзіўся, што:

*«сёння ёсць розніца (у цане) для распаўсюджвання праз паштовыя аддзяленні, пры друку»*[35].

У жніўні факт існавання больш высокіх тарыфаў на распаўсюд і вытворчасць прыватных СМІ пацвердзіў і галоўны рэдактар «Советской Белоруссии» Павел Якубовіч[36].

У 2002 годзе замацаванне няроўных умоваў гаспадарання СМІ розных формаў уласнасці працягвалася на ўзроўні заканадаўства. Гэтак, прэзідэнцкі ўказ ад 30 верасня 2002 года цалкам вызваліў ад арэнднай платы дзяржаўныя выдавецтвы,

[35] Валерый Ліпкін: «Мы працуем над тым, каб Беларусь адчувала сябе роўнай у сусветнай супольнасці» // Звязда. 2002. №276. 27 лістапада.

[36] «Я не пиарщик»: Неюбилейные откровения Павла Якубовича // Белорусская газета. 2002. №30. 5 августа.





а таксама закрытыя акцыянерныя таварыствы «Второй национальный телеканал» і «Столичное телевидение». Гэты ж указ вызначыў паніжальны каэфіцыент 0,2 за аплату памяшканняў, якія арэндуюцца:

*«редакциями государственных газет и журналов, финансируемых из государственного бюджета, за все занимаемые ими площади»*[37].

Такім чынам, дзяржаўныя газеты і часопісы атрымалі дазвол на аплату 20% ад фактычнага кошту арэнды памяшканняў.

Уведзены ў Мінску з 1 верасня 2002 года 5% падатак на продаж тавараў у раздробным гандлі закрануў толькі недзяржаўны сектар медыйнага рынку. У неапублікаваны Дадатковы пералік тавараў, якія не абкладаюцца такім падаткам, асобнымі пунктамі ўвайшлі перыядычныя выданні з вопісу спісання №17[38] і фінансаваныя дзяржавай («дотируемые») перыядычныя выданні. Аналагічныя правілы гандлю на тэрыторыі Мінскай вобласці пачалі дзейнічаць у студзені 2002 года.

[37] Указ Президента Республики Беларусь №495 «О совершенствовании порядка определения размеров арендной платы и передачи в безвозмездное пользование общественных, административных и переоборудованных производственных зданий, сооружений и помещений, находящихся в государственной собственности».

[38] У п. 1 вопісу-накладной №17 у жніўні 2002 года ўваходзілі: «Белорусская нива», «Голас Радзімы», «Звязда», «Знамя юности», «Зорька», «Культура», «Літаратура і мастацтва», «Народная газета», «Наша доля», «Переходный возраст», «Раніца», «Рэспубліка», «Советская Белоруссия», «Спортивная панорама», «Сям'я».

Цягам года мелі месца забароны на рэкламу недзяржаўных газет. Гэтак, у лютым у Брэсце мясцовыя ўлады забаранілі рэкламу газеты «Брестский курьер» у гарадскіх тралейбусах з-за яе *«немэтазгоднасці»*.

У тым жа месяцы Беларускае тэлебачанне адмовілася паказваць рэкламу «Белорусской деловой газеты», а гарадскія ўлады забаранілі размяшчаць ужо аплочаную рэкламу газеты, прымеркаваную да 10-х угодкаў выдання, на рэкламных расцяжках. Аргументуючы адмову, намеснік старшыні Мінскага гарвыканкаму Міхаіл Пятрушын выказаў думку, што юбілей газеты не ёсць грамадска-значаю падзеяй[39].

У верасні 2002 года вялікую крытыку выклікаў падрыхтаваны Міністэрствам падаткаў і збораў праект зменаў і дадаткаў у Закон «Аб рэкламе», які прадугледжваў значнае ўскладненне працэсу размяшчэння рэкламы ў газетах. Прыняцце гэтага закона пагражала скарачэннем колькасці прыватных аб'яваў у газетах і, як вынік, рэзкім зніжэннем накладаў. Да 1 ліпеня 2003 года папраўкі ў Закон парламент не разглядаў.

Праяваю імкнення дзяржавы да манапалізацыі медыярынку ёсць дэмпінгавыя кошты на дзяржаўную перыёдыку ў раздробным гандлі. Гэтак, у жніўні 2002 года ў шапіках Мінгарсаюздруку дзіцячыя тыднёвікі «Раніца» і «Зорька» каштавалі па 59 рублёў; «Белорусская нива», «Звязда», «Народная газета», «Рэспубліка» — па 100 рублёў, а суботні выпуск газеты «Советская Белоруссия» (24 паласы фарматам А3, 12 з іх — паўнаколерныя) — 150 рублёў. Для параўнання: пятнічны выпуск самай высоканакладнай прыватнай газеты «Комсомольская правда в Белоруссии» каштаваў 260 рублёў, а цэны на

[39] http://charter97.org/bel/news/2002/02/08/03





іншыя прыватныя газеты ўкладаліся ў спектр ад 160 («Народная воля») да 480 («Белорусский рынок») рублёў.

Той факт, што сярод дзяржаўных самымі таннымі ў 2002 годзе, акрамя дзіцячых, былі грамадска-палітычныя газеты, сведчыць пра актыўную падтрымку дзяржаваю найбольш «ідэалагічна нагружаных» выданняў.

На функцыяванне прыватнага сектару СМІ ўплывала таксама небесстаронная палітыка «Белпошты» — дзяржаўнага манапаліста ў галіне дастаўкі прэсы[40]. Гэтак, кошты дастаўкі прыватных газет праз «Белпошту» выраслі ў 2002 годзе больш як на 60%, што прывяло да перакосаў у структуры цаны выданняў. Да прыкладу, кошт дастаўкі «Комсомольской правды в Белоруссии» склаў больш за 70% ад цаны нумара газеты, а праца журналістаў, менеджэраў, выдаткі на паперу і друк — усё разам — менш за 30%.

У жніўні начальнік планава-эканамічнага аддзела «Белпошты» Вольга Лычкоўская паведаміла радыё «Рацыя», што падвышэнне тарыфаў на дастаўку прэсы адбылося пасля таго, як у ліпені ўрад знізіў тарыфы на дастаўку «Белпоштаю» пенсіяў. Жнівеньская падвышка тарыфаў не закранула дзяржаўных выданняў.

Цягам года рэгіянальныя карэспандэнты службы маніторынгу БАЖ неаднаразова паведамлялі пра факты прымусу пры правядзенні падпісной кампаніі на дзяржаўную прэсу.

[40] «Белпошта» ўнесеная ў: «Государственный реестр хозяйствующих субъектов, занимающих доминирующее положение на товарных рынках Республики Беларусь» па таварных пазіцыях «Почтовая связь и спецсвязь».